Славамір Адамовіч

# РЫМ

Выбраныя вершы

2002—2010

Беларусь — Нарвегія

БелСаЭС "Чарнобыль"

Мінск, 2011

## ДОТЫК ДА АГНЮ АПРАМЕТНАГА

Паэт Славамір Адамовіч увайшоў у свядомасць беларусаў і, прынамсі, тых, хто асабіста ведаў і ведае яго, як безразважна адчайны чалавек, нават дзівак, ад якіх мы адвыклі і ўспрымаем за "ненармальных" людзей, на жаль, у той час, як імі льга ганарыцца.

А тут асоба, безумоўна, тонкай натуры, лірычная, з драматычным наканаваннем у лёсе; хлопец гранічна просты, шчыры і даверлівы — толькі, пры пэўным запале сваім і пораху, здольны ў крытычны момант выбухнуць. Таму ніяк не аднімеш ад яго ваяўнічасці, прынцыповасці, рашучасці, годнасці.

Невялікая аналогія. У сям'і пчол, як вядома, ёсць крылаткі, вунь такія пільныя і актыўныя пчолкі, якія стаяць на варце інтарэсаў усёй сям'і. Славамір па сутнасці падобны на адну з гэткіх залатых істот.

Пранікнёнае сэрца С. Адамовіча заўжды радуецца агульнаму поспеху, але якраз, можа таму, яно вельмі чуйнае да небяспекі, якая пагражае грамадству, няхай то будзе канстытуцыйны пераварот з усімі яго наступствамі або нейкая меншая бяда, непрыемнасць — чалавек у ахове і, пры жадным намеры змагання, кідаецца ў самае полымя.

Напэўна, Славамірава маці — шляхетная Юзэфа Чантарыцкая — перадала сыну разам з грудным

малаком зусім спадчынны запавет клапаціцца пра лёс свайго народа і Бацькаўшчыны.

Славамір па натуры, як я разумею, вельмі блізкі да мастака А. Пушкіна або колішняга навукоўца М. Прашковіча, з іх патрыятычным узлётам, ён падобны да людзей, якіх нашы ўлады сваімі ўчынкамі і дзеяннямі адштурхнулі ад сябе, абылгалі і паставілі ва ўмовы ізгояў. Таму на іхнім шляху фатальна паўсталі следчыя ізалятары, турмы, выгнанне…

Паэт прызнаецца сваёй каханай:

Я словамі прыгожымі ня спешчаны…
Ты ведаеш, люблю я ў слове соль.
Пішу я, як другія сталі першымі,
а першыя пайшлі ў сівую золь.

Мы трымаем перад сабой трэцюю кнігу вершаў С.Адамовіча. Першыя дзве паэтычныя кнігі “Кальварыйскія клёны” (Бібліятэка часопіса “Маладосць”) і “Плавільшчыкі расы” (Бібліятэка газеты “Наша ніва”) выйшлі напачатку і ў канцы дзевяностых гадоў; тэматычна прысвечаныя каханню, вайне, бацькаўшчыне, яны мелі жывы, экспрэсіўны, напорысты характар і адначасова паказвалі, што аўтар не парваў з рэалізмам і нават ходзіць як бы басанож па зямлі. Асаблівы поспех меў зборнік “Плавільшчыкі Расы”.

Чытачы, крытыкі, мяркую, разбяруцца таксама і ў мастацкіх ды філасофскіх асаблівасцях зборніка выбраных вершаў паэта “Рым”, у вартасцях гэтай кнігі, яе навізне, арыгінальнасці стылю. Мне ж адно застаецца яшчэ раз зазначыць: перад намі ў асобе аўтара цэльная і крамяная

постаць адоранага і адукаванага чалавека, які меў свае і слабасці, хібы, але ўжо прайшоў нямала выпрабаванняў і няблізкіх дарог, шмат чаго пераасэнсаваў, вярнуўся “з пазавуголляў Еўропы” на радзіму. Ён поўны творчых сіл, неспатольнай энергіі і гатовы зноў да актыўнага ўдзелу ў жыцці сваёй грамады, грамадства, якое таксама знямоджанае ў бясконцых выпрабаваннях дома, на месцы.

Зычу аўтару далейшага творчага разгарнення і плёну!

*Васіль Якавенка*

***

Вясна ідзе...
Давайце жыць вясной! —
каткамі на галінках любавацца,
глядзець, як растае зьляжалы snø*,
і на апошнім лёдзе спатыкацца.

.............................

* Snø — “снё” / сьнег (нарв.).

## УСЁ, ПРА ШТО ТЫ ДУМАЕШ

*Усё, пра што ты думаеш,*
*існуе ў тваёй галаве:*
высокае жыта за студняй,
цэбар, вада ў ім зялёная
і чорныя апалонікі —
заўтра ўжо камары…
…*жыве ў тваёй галаве:*
камізэля абходчыка жоўтая,
салодкі дым паравоза,
рэйкі Лібава-Роменскай,
дрэва лісткі маладыя
прыліплі да пальцаў школьніка…
*… жыве ў тваёй галаве:*
рыжы кажух дзеда і калаўрот на гарышчы,
леташнія кілбаскі сухія ў вялікім кашы,
фасоліны залацістыя ловіш у малацэ,
на прыпечку гострац нож,
сякера ў калодзе, строгая
баба Грася на зэдліку
расплятае сівую касу,
тулава пеўня скача і кроў з гарляка пырскае
па хларафіле дварышча
і сьвежых альховых трэсках…
…*жыве ў тваёй галаве:*
рызьнік сонечным днём
узьехаў на панадворак
забраць старызну гадоў;
белыя ізалятары
часоў электрыфікацыі
бацька твой б'е натхнёна,
а потым крышыць курам

зь вераю, што пачнуць яны
несціся гарадзкімі
белымі-белымі яйкамі…
*… усё, пра што ты думаеш,*
*існуе ў тваёй галаве:*
ранкам раса першабытная,
рыбіны цела пругкае,
на выгане парнакапытныя,
па бруку рыдван грукае,
сабака яшчэ цёпленькім
зайца бярэ ў гнязьдзе,
і крапаюць верхнія кропелькі
па ніжняй вадзе.

***

Успамінаю: плуг і лемяхі,
нарог, стальвагу, лейцы і каня:
ару дзірван і бачу, як з ляхі
скацілася малое жабяня.

Ару, а грудзі рве азон ральлі,
і конскі бок дрыжыць пад лейчыной,
і брат нясе падпахай хатулі —
мы садзім бульбу раньняю парой.

***

Што ж адбываецца? Што?
— Акупацыя!
Што адбываецца?
— Хам в кураже!
Трашчаць у эфіры мянтоўскія рацыі
і га́дзінай сыкае рускі гук “Же”.

***

Аднойчы я прайшоў яе наскрозь —
Радзіму, што прысніў у снах трывожных.
І стаў шукаць зямное кулі вось
далёка ад айчынных раздарожжаў.

***

О так, я вярнуся і буду, як босы на вогнішчы;
о так, я вярнуся, таму што я той пралетар,
хто толькі свае адзначае купальлі
й вадохрышчы,
і крэсівам словаў вялікі ўсчынае пажар.

***

*Натальлі*

Памятаеш, каханая,
быў сад, і конь малады
мокрымі тыцкаўся храпамі
ў крыжык твой залаты.

Яблыкі падалі. Весела
елі мы сьпелы ранэт.
Пасьля ты моўчкі павесіла
на гронку шыпшыны берэт…

Памятаеш, каханая,
ты мне шаптала ў далонь,
калі па зямлі неўзаранай
працокаў сонечны конь.

***

Што напісаць табе, каханая, з Нарвегіі,
дзе я жыву ў даліне сярод скал?
Не, я не перайшоў на стансы ды элегіі,
свой верш пляту я, быццам грубы трал.

Я словамі прыгожымі ня сьпешчаны…
Ты ведаеш, люблю я ў словах соль.
Пішу я, як другія сталі першымі,
а першыя пайшлі ў сівую золь.

## ЗЭЙНАБ

*Дачушцы Ксені*

Насупраць маёй кватэркі
жыве дзяўчынка Зэйнаб,
частуе мяне цукеркамі і
дзеліць на ўсіх кебаб.

Ёй толькі што два з паловай
споўнілася. Пакуль
расьце яна пад аховай
ад розных шалёных куль.

На рукі і з рук просіцца,
вялікай цацкай грыміць —
крыніца такога настрою,
што хочацца жыць і жыць!

## НІЧОГА НЕ АДБЫВАЕЦЦА

Калі нічога не адбываецца,
тады на душы сум адбіваецца,
тады нічога не прамаўляецца,
і не сьвітае, і не зьмяркаецца.

Калі нічога з намі ня робіцца,
тады пачынаем мы хутка горбіцца,
тады нам даводзіцца целам пакутваць
і спадцішка дух свой прыпутваць.

Калі нічога ні з кім не здараецца,
тады ніхто ні ў чым і не каецца,
тады імкліва сваё забываецца
і ўжо ніхто ні з кім не вітаецца.

Калі нічога, што ў неба іскрамі,
калі ў вачах тваіх згаслі бліскаўкі,
калі не агонь ты, а толькі прысачак,
тады і ў мяне ня словы, а рысачкі.

Ах, што ж гэта больш нічога ня робіцца:
дабро ад зла нікім не бароніцца?
Ня йдуць да нас ні вогнепаклоньніца,
ні хітры француз, ні татарская коньніца?

Нічога з намі не адбываецца —
хіба што жонка на кухні лаецца,
хіба што на трох мы паспелі затарыцца,
а перад тым у лазні папарыцца.

Нічога з намі не адбываецца?
Жывецца нам ціха і не паміраецца?
Ня веру! Павінна адбыцца штосьці,
як быццам у сэрца жалезныя восьці!

***

*Штогод у сярэдзіне студзеня на неба над запалярным нарвежскім гарадком Буда (Bodø) вяртаецца свастыка адвечнага Сонца — гэта значыць, што завяршылася Палярная Ноч і пачынаецца Палярны Дзень.*

16-ы дзень году!
Вітае тутэйшы люд
вяртаньне сонца на неба —
прыроды адвечны цуд.
Віншуюць мяне таксама:
маўляў, kommer sola i dag*,
і я разумею саама,
я кемлівы, нібы грак,
які на ральлі вясеньняй
чакае свайго чарвячка…
О, момант прыходу трымценьня! —
нібы выпадзеньне цьвічка
з гнілое бэлькі цярпеньня.
Адчуйце ж: ідзе вясна
ў вашу душу эмігранта,
у змораную душу…
Не, зьехалі мы не па транты,
свайго нам хапала ільну
(блакітна-зялёныя мантры
уквецяць любую шашу),
а зьехалі мы, каб ня згаснуць
парою міжчасься і страт.
Дык скажам выразна і ясна:
Чакайце, мы kommer snart**.

……………………

* Kommer sola i dag — сёньня вяртаецца сонца (нарв.).
** Kommer snart — хутка вернемся (нарв.).

## СНЫ

I

Сьніцца, як часта сьніцца
рознае, ды пра адно:
чырвоны гіль і сініца,
і студні чыстае дно,
і хутар, дзе ты качаўся
на ячнай саломе ў таку,
за бацьку раней прачынаўся
і клікаў яго на раку.
У снах эмігрантаў весела,
у снах ёсьць работа і дом,
і маці, якая песьціла,
і строгі бацька з дубцом.
І сьніцца, як білі, як страшылі,
як часта быў сам па сабе;
змагаўся з каростай і кашлямі,
баяўся, як дзед, згарбець…
Усё там, у снах эміграцкіх,
а болей, а болей вясны;
калготкі з дзірачкай, фанцікі,
год посны і год мясны;
Каляды — пара трывожная;
Вялікдзень — жыцьцё на ўздым!
І першыя асцярожныя
абдымкі і буські, як дым.

## II

Мне сьнілася: хутар бабы Параскі
і сад, якога ў яе не было;
белыя паскі, чырвоныя паскі,
і што жыло, і што не жыло.
Сьнілася: я на Радзіму вярнуўся,
сваіх абдымаю,
Жанчыну люблю,
якая мяне не чакала мусіць,
men* я ня ганю яе, не хвалю, —
маімі ейныя вусны лаўлю…
Далей ня памятаю — прачнуўся
і вершам выпаў на чысты ліст,
волю даўшы сапраўдным пачуцьцям,
з крыкамі болю чаргуючы сьвіст.

…………………………

* Men — але (нарв.).

***

Не “народны”, а толькі родны,
не “заслужаны”, а слуга,
я пішу пра род мой нязводны,
што вядзе адлік ад плуга.

Бачу ўсё: як улазяць у скуру,
як аж плішчуцца вон з яе,
з польскім а́кцэнтам кажучы — курвы,
а па-нашаму — бледаўе.

Што ж вы, сукі, на целе Краю
выкабельваеце кубло?
У спадзеве, што вашу зграю
абароняць сіла й бабло?

Не, шасьцёркі пятай калоны,
сыты сьмех ваш — то п’яны сон.
На пахмельле ж прасіць палону
цугам пойдзеце пад Закон.

Вось тады вы ўспомніце “права”,
“Канстытуцыю”, вашы “суды”…
У турэмнай наглядчыцы
Клавы канькаць станеце чыстай вады.

Вось тады, калі вашы каркі
ашчаперыць карцэра золь,
і турэмшчык, сын чаркі і скваркі,
адбярэ у вас нават соль,

вось тады зразумееце рэзка вы,
прарабы саюзных валют,
што пагарда да *времени местного* —
гэта шлях у тутэйшы грунт.

***

Адзінота. Адліга. Напу́ста
пражываю гады і дні
і чарнею душой, нібы луста,
наша луста ў чужым агні.

Без мяне вырастаюць дочкі,
не са мной мае жонкі спяць,
побач только нянавісць крочыць,
за сьпіною выжлы хрыпяць.

Хто ж там прагне вершыкаў **Славы**?
Хто ў эфіры мой ловіць крык?
Я пісаў языкамі лавы,
а ў адказ мне — зьмяіны сык?

Што ж, лясы вызваленчай справы
зноў нашчадкам з нуля уздымаць.
Рыштаваньнямі, як аправай,
хай спрабуюць наш край абняць.

Там, у будучыні, магчыма,
белым днём народзіцца ён,
беларускі герой-мужчына
з пераможным словам “Рубон!”

*2003*

***

Усё, што напісаў,
ужо пакрыта пылам.
Што доктар прапісаў —
душа не ацаніла.

Чакаў я, што вось-вось
пастукае Жанчына…
Чужая маладосьць
паціснула плячыма.

Жанчына не прыйшла,
і маладосьць мінула,
і доўгая шаша
закончылася шулам.

*2003*

## ПІСЬМО З КРАІНЫ ПАЎНОЧНАГА ШЛЯХУ

Мілая, падумай, тут няма
ні жытоў, ні васілёчкаў сініх...
Ведаеш, тут вельмі шмат цямна
і тунэляў, і электраліній.

Любая, тут холадна зімой,
горы тут зусім не з даламіту,
летам тут у кволы травастой
шыюцца лесавічкі-рахіты.

Сьмешная, тут людзі, як і мы, —
белыя з зялёнымі вачыма.
Праўда, ў іх драўляныя дамы,
чысьціня вакол і дабрачыннасьць.

Родная! Я ўсё яшчэ люблю
гэны Край, дзе ты жывеш за мужам…
Толью лепш свайго не пакідай
і ня йдзі за іншага у сьцюжу.

*2003*

## АГОНЬ

Ня вырвеш гэта з мяне,
хоць многім хацелася гэтага.
Ніхто яго не кране,
майго агню апраметнага.

Яго не загасіш віном,
халодным півам і клёцкамі.
Няхай жа гарыць ён суздром,
каб слабыя сталі моцнымі.

Агонь мой, што срэбра вады:
ён лечыць і наталяе,
і мёртвыя гарады
дзеля жывых спапяляе.

*2003*

***

Палюбоўніцы, палюбкі, пакладаначкі,
Ні адну не адштурхнуў я ад сябе.
Я любіў вас днём і ноччу, мае паннанчкі,
як над вершамі, над кожнаю гарбеў.

Калі ў лютым завіруха ў вокны білася,
у маім пакоі жыў вясёлы май.
І на белым нешта юнае храбрылася,
і шаптала, і шаптала: “Не кранай…”.

*2003*

## ПРЫНЦЭСЕ НАРВЕГІІ
## МАРЦЕ ЛУІЗЕ

Нашчадніца суровага берсерка,
прыгожая звычайнай пекнатой,
прынцэса Марта бачыць у люстэрку,
што хутка стане мамай маладой.

Ня ў дыхавічнай плоці сьпее семя —
здаровая жанчына носіць плод,
каб нарадзіць агністае, як крэмень,
дзіця, што прывітае свой народ.

Ня бачыў я прынцэс такіх ніколі,
прынцэсу Марту бачу ўпершыню:
як быццам мама на вясеньнім полі
кідае зерне ў цёплую ральлю.

Ёсць пекната сапраўдная, зямная,
ёй непатрэбны перлаў танны бляск.
Такой я ўбачыў Марту і схіляю
свой горды лоб ніжэй, чым ватэрпас.

*2003*

***

Няўжо і пра цябе, о Сандвіка*,
я напішу, як некалі пра Вільню:
зь любоўю і жальбой, прыгожа, стыльна,
і, што галоўнае, — кірылічнаю графікай?

О Сандвіка! Твой край такі ж прыгожы,
як Бацькаўшчына белая мая.
Магчыма, сёньня ты мне дапаможаш,
а заўтра я сплачу табе спаўна.

Як доўга я чакаў, што на Радзіме
нарэшце пойдзе спорны сьвежы дождж,
а ён ішоў над Сандвікай гадзіну,
а потым бліснуў жоўты сонца грош.

І паплылі над ф'ёрдамі аблокі,
працятыя праменьнямі сьвятла,
і скальны мох тысячагодзьдзяў токі
аслабаніў з каменнага жытла.

* Sandvika — нарвежская мястэчка, недалёка ад Осла.

***

Калі я бачу, што бачу,
я думаю: гэта канец,
нічога ўжо не перайначаць
ні бог, ні д’ябал, ні жрэц.

І плавіцца наш палярны,
тым больш — запалярны — круг,
а момант расплаты астральнай
пільнуе паганскі дух.

# АДРАКАЮСЯ!

*Да 10-й гадавіны 1 зьезду*
*беларускіх нацыяналістаў*

Адракаюся ад запраданцаў,
адракаюся ад паяцаў,
ад свабодных радыёстанцыяў,
ад лядова-магільных палацаў!

Адракаюся ад нікчэмнасьці,
апазіцый, рухаў і партыяў,
ад фальшывае бурапеннасьці,
і ад натаўскіх збройных гарантыяў!

Адракаюся ад глабалізму,
ад анархіі, ад беспарадку,
ад бясплоднага аптымізму
і ад слабых духам нашчадкаў!

Адракаюся ад лібералаў,
дэмакратаў і правых марксістаў,
ад крывавых тэлеканалаў,
ад царкоўнікаў і манархістаў!

Адракаюся ад графаманаў,
багамазаў і Мельпамены,
адракаюся ад падману,
дэмагогіі і падмены!

Адракаюся ад свабоды
жыць сярод зьмізарнелай шаці,
адракаюся зьверху і споду
ад паўзучых інкарпарацый!

Адракаюся! Адракаюся!
Адракаюся ад... каханьня! —
ад таго, што хацела паюснай
і шампанскага на сьняданьне.

Ад “настаўнікаў” адракаюся,
што вучылі казаць “плястык”...
Адракаюся і ня каюся
ў сьвятле сонечных свастык!

*2004*

## ГОСЬЦЯ

Па Калядах — сонца на лета,
мокры сьнег і кволы мароз,
і аднойчы суседка Магрэта
забяжыць накурыцца да сьлёз.

Я скажу ёй: "Ня трэба дыму —
я люблю натуральны пах,
чысты позірк, усьмешку бяз грыму,
і шчаслівы бляск у вачах.

Распранайся і будзь як дома.
Прапаную класічны набор:
белы ложак, лёгкая стома,
элегантна праліты кагор…".

- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

Газ расейскі гарыць на кухні —
добра ведаць, што ўсё ж гарыць,
і твае сустрэчныя рухі
мне да раніцы не спыніць.

## УСПАМІН
## ПРА САМАГОНАВАРЭННЕ

Гэта калісьці было:
хата, зіма і холад,
у полі шмат намяло;
пад ложкам бушуе солад.
Сусед наш стары прыйшоў
варыць самагонку з бацькам.
Схаваўшы пад шапку вушшо,
дастаў самагонныя цацкі.
Сьпярша разьвялі агонь,
паставілі трубкі і трубы,
і цэбар, і цеста ў далонь
уліпла, як воск у зубы…
У хаце палілі печ,
за садам кіпела работа…
Варыць самагонку — рэч,
якая робіцца ўпотай.
Было гэта так даўно —
пачатак сямідзесятых:
лавілі дарослых, і дно
выбівалі ў цэбрах мурзатых…
Але самагонка — напой
жытнёвы, жывы і чысты.
Хто піў яго з галавой —
рабіўся, як дуб вячысты.
Я помню, што пасядзець
бацькі маладыя ўмелі:
хто голас меў — мог спець;
пад закусь павольна хмялелі.
А як жа елі!.. Бабуля на стол
стаўляла капусту з дзежкі,

грыбную поліўку і расол,
мачоныя сыраежкі…
З шастка даставалі пару кілбас
і бондачку для малечы.
Гарэлка — дарослым,
                    а дзецям — квас
і дранікі свежыя з печы;
пяршак пілі, курэў “Беламор”,
партыйных, было, згадалі,
і хтосьці, на хлеб намазаўшы здор,
выпіў і крэкнуў:
                    “Дасталі!”

*2005*

***

Мы новае стагоддзе* пачалі
Ад’ездамі, уцёкамі, зьнікненьнем,
— як некалі ў 13-м** дзяды,
а хтосьці, як Касьцюшка, паланеньнем.

*Краса і сіла*, сьлёзы і бяда,
а трэба жыць (жыцьцё праходзіць зараз!),
старэем мы, як горная руда…
Дык адкуем сябе ў агні паразы

у помсты меч, у лёгкі спрытны корд,
аздобім тронкі прагай перамогі,
і сто гадоў пражыўшы, быццам год,
ня выйдзем з каляі сваёй дарогі.

Пры куфлі піва (а каму мілей
шампан, няхай даруе мне плебея звычку)
мы абмяркуем, як жа быць далей
нам на чужыне: зырыцца ў кантычку,

дзе словы страцілі свае і бляск, і сілу?
Ці праведна чакаць цямна магілы?
Не, думаю, зьнікаць нам не ў дугу:
мы адступілі толькі на часова.

Вось пакаштуем іхняга рагу,
раскажам ім пра нашыя засовы,
а там, а там мы набярэмся сіл,
і назва бежанецкага народу
умоўнай стане, і Радзімы тыл
пакліча нас да роднага парогу.

………………………

* 21-е стагоддзе.
** 1913 год 20-га стагоддзя, першая хваля беларускай эміграцыі.

***

Я дома быў! Я над гняздом зязюлі
высока ў небе ціха праляцеў,
але не ўпаў, а так хацеў, хацеў
шурпатым тварам у зямную кулю!
Там, на нізах, жыла мая Краіна,
мой хутар светлы і стары хмызьняк;
тачыўся з глебы свежы пастэрнак,
і будслаўская грэшніца Фаіна
натхнёна абдымала ў сьне яго,
апошняга каханага свайго.

*2005, Вільня — Осла*

***

Дык прыязджай!.. Пакуль ня выпаў сьнег.
Я пакажу табе гару кахання,
я раскажу, што грэх і што ня грэх,
пра што няма ні ў Торы, ні ў Каране.

Дык прыязджай хутчэй! Дык прылятай!
Я тры гады пазбаўлены Радзімы,
любові, словаў родных і вачэй…
Дык прыязджай пакуль ня сталі зімы.

А, зрэшты, не, куды тут прыязджаць,
гарэць удвох у пекле настальгіі?
Чужому краю дзетак нараджаць,
замест любошчаў прагнучы герылы?

Не прыязджай! Пакліч мяне сама,
хоць парай фраз пакліч мяне дадому.
Я запяю, зайграю, як сурма,
і стану зноў любімы і вядомы.

Не прыязджай! Вярні мяне назад!
У дыпкур'ерскім правязі праз межы…
Я так хачу убачыць плодны сад
і позірк твой, пасля каханьня свежы.

***

*А. П.*

Ты кажаш: пакайся, вярніся ў Будслаўе да маці.
Ты радзіш мне кветкі разводзіць і нават
пра вершы забыць.
Мой дружа далёкі, для гэтых дзіцячых нарацый
я надта здаровы, мне здорава хочацца жыць.

Я доўга цягнуўся да сонца зялёнаю шылкай
з айчыннае крушні, з балотаў, з калгасных канаў.
Я цела сваё напінаў да апошняе жылкі
і тлеў на разрыве, каб дух мой свабодна лунаў.

Мой дружа высокі я розныя практыкі зьведаў,
экспірыенс мой перапоўнены розным дабром,
але не сабраны яшчэ мой букецік для атамнай Леды
і ў пошуках кветак я зноў пакідаю свой дом.

*2005*

***

Ня тое ўсё! Ня так і не пра тых!
Аслаб, ачах, кудысьці зьніклі сілы,
І словаў не хапае залатых,
і сьняцца сны пра сьвежыя магілы.

***

Ой, жанчына, любі мяне,
ой любі, пакуль я жывы!
Не чакай ад мяне ямнага,
бо пры мне толькі ранаў швы.

А ня любіш — пільнуй надзейнага,
а ня хочаш — свайго знайдзі
рабача́я і дабрадзейнага,
каб з табою заўжды хадзіў.

Не маё, не маё правіла —
жыць-пражыць, як што набяжыць.
А калі ж, калі мяне спанаравіла,
не спрабуй, ня думай адваражыць.

Палюбі вазьмі безумоўнага,
пасьцялі пасьцелю на двох,
пасьцялі з таго, што ё, — зь
невымоўнага,
я зайду пад твой абарог*.

Во як гэтая птушка кнігаўка,
запяі мне раніцай: мілы, піць!..
Абачнуся і ціха выгукну:
як жа файна з каханай быць!

*21.06.2005*

* Абарог — драўляны паддашак на чатырох шулах, пад які складваецца сена.

# ЭМІГРАНТ

*Землякам у замежжы*

Дзень да вечара перабыў,
ноч да раніцы пераспаў,
а ня ўсе яшчэ крыўды збыў,
не ўсяго сябе распластаў.

Вырваць кратны свой боль з душы
не, ня здолееш, як ні рві.
На чужым, на злым скавышы
хоць крыжуй сябе, хоць гняві.

Будзеш спаць хоць гадзіны тры,
а ўсё роўна прысьніцца дом
і зялёныя чараты,
і над пушчаю летні гром.

Дзе ж ты дзенесься ад свайго,
дзе прыстроіш свой вольны сьпеў?
На чужыне? О не, крый, бо..!
На радзіму цябе сарве.

Kassa-dama зірне ў білет,
ухмыльнецца абурана: “Як?
Наш утульны ватэр-клазэт
зноў мяняеце на бардак?”

... У салоне вас толькі сем,
дзьве газэты — “эСБэ”, “Звязда”,
і па радыё рускі эFэМ:
“С возвращением, эмигрант!”

*2006*

***

Пакуль я пісаў пра Алжыр,
вайна прыйшла на Балканы,
хвост распусціла веерам
бомбаметалу цяжарнага
і, як прастытутка сусьветная,
ракетным стабілізатарам
узвыла над Македоніяй,
а скончыла дзесьці
пад Менскам.

Паслухайце вы, штатныя,
штацкія і ваенныя,
мне гэта не падабаецца,
не будзіце ўва мне зьвера
(пакуль яшчэ сьвет трымаецца
на шчырасьці і даверы).
Ня возьмеце крэйсерскай хуткасцю,
ні нават адчаем штрафбатаў
над нашаю Мачу-Пікчу *
сьцяг свабоднай Рэспублікі.

.........................

* Старажытная крэпасьць інкаў, пабудаваная на вяршыні гары.

## РАМАНС

Ты сьнілася, ты зноў мне сёньня сьнілася:
чужая жонка — родная душа.
Нязвычна доўга сонца ў сьне садзілася,
і маладзела пад дажджом шаша.

Ядловец пах зьнікомым пахам тайнага,
няўлоўнага імгненьня тэт-а-тэт
і цені два з пейзажу пастаральнага
выходзілі, ствараючы дуэт.

Сказаў адзін: “Як ціха сёньня вечарам”.
Сказаў другі: “Маглі мы разам быць”.
Заўжды ў жыцьці нам не хапае нечага,
пакуль у жылах дымна кроў кіпіць.

Ноч адбыла, і на сьвітаньні ўзрушана
прайшоўся верхам вецер малады.
І зніклі цені разам і нязмушана,
і ты шапнула: “Мілы, дай вады”.

## ЭНІРА БРАНІЦКАЯ

…ты робіш расьцяжку, навучана
прыёмам дзюдо і пачуцьцям
нянавісцы да акупанта.
Замежныя мовы ты ведаеш
і
сьпецыяльнымі іншымі
ведамі, пэўна, валодаеш,
плюс да таго ты начулася
прыблатнёнае фені ў камеры
турэмнага ізалятару,
дэмакратычна кляймёнага
“амэрыканкай”
і сьціпла схаванага ў порціку
за жоўтым гэбэшным гмахам…
У свае маладыя годзікі
ты столькі ўжо бруду зьведала!
Ты ўжо не забудзеш ніколі,
як пахне жаночая камера,
як сьпіцца на “верталёце”*
і сьніцца свабодны Край,
і як у прагулачным дворыку
нясьцерпна вольнасьці хочацца,
і хоць бы вось тою бліскучаю
і цьвёрдакрылай кузуркаю,
а выпаўзьці з гэтага логава,
так дэмакратычна кляймёнага…
І ўсё-ткі, Эніра Браніцкая,
ня гэты брутальны экспірыенс,

………………………

* “Верталёт” — турэмныя нары, якія днём адкідваюцца да сьцяны (жаргон).

што німбам сьмярдзючым зьвіваецца
над Вашай чарнявай галоўкаю,
хацеў бы я бачыць, о не!
І мне перманентныя вышукі
быдлячай улады вядомыя,
і я разрываў свае лёгкія
густой протасферай камеры.
І усё ж пра мужчынаў мы ведаем,
што лёс наш — турма ці вайна.
А Вы, о Эніра Браніцкая,
наш сімвал Айчыны і Вольнасьці,
жывіце свабоднаю птушкаю,
відушчай ляціце арліцаю,
уцелаўлёнай Радзімаю —
чарнявая, стройная, мудрая,
надзейная, годная, — нашая!
А я напішу Вам гекзаметры,
як пахнеце Вы травастоямі,
як Вашай энэргіяй поўняцца
карпускулы атмасферычныя,
і крушні, грымотам адкрытыя,
зьбянтэжана заціхаюць,
як толькі Вы засынаеце
на грубым турэмным посьціле…

\- - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - - -

Вярні ж нам, Эніра Браніцкая,
надзею і веру, а самае
галоўнае, самае-самае —
любоў нам, Эніра, вярні!

*2006*

## БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Стойце мужна на нашых пляцах!
Стойце сьмела, ні кроку назад!
За нашу сваботу! За вольную працу!
За свой, за новы свабодны ўрад!

Стойце дарэшты і гаварыце
мовай вуліцы з народам сваім.
Нам нельга, нельга здацца, скарыцца,
як некалі барбарам здаўся Рым.

Нясіце веру, што мы пераможам.
Нясіце горда наш чысты сьцяг
за нашых матуль і жанчын прыгожых,
за нашу волю, за наш абсяг!

А калі раптам стане так горка,
а калі раптам — “рукі назад!” —
іншыя прыйдуць і дапамогуць
шыхтом яднаньня і песьняй у лад.

Вы — наша сёньня, вы — наша заўтра,
і хоць балюча, але, але
і па той бок металічных кратаў
вясна цьвіце на турэмным шкле.

*2006*

## ПІСЬМО ЗЕМЛЯКУ

Ты ведаеш, мой дарагі зямляк,
што азначае жыць гадамі ў скрусе,
з нянавісьцю глядзець на мяккі знак
і бачыць здрайцу ў кожным беларусе.

Ты ведаеш, мой раньні эпігон,
пісаць адно, а жыць жыцьцё другое,
вядома, можна, толькі як закон,
у выніку ні вершаў, ні героя.

Я столькі год, напрыклад, ні гу-гу,
адзін у гэтым вольным еўразьвязе.
І хоць падбі падковамі блыху —
тутэйшыя ня зойдуцца ў экстазе.

Мы іншыя, зямляк, і напінаць
перыферыю жыл няма патрэбы,
а калі ўсё ж за нешта паміраць,
дык за цяпло сваёй айчыннай глебы.

*2007*

## ПЕРАД КАМПУТАРАМ

Я міргаю сваёй маладосьці
лёгкім націскам на мышаня,
раптам нешта прыйшло,
як штосьці,
што ня мае свайго імя.

Толькі пахі, і толькі гукі:
пахі — восені, гукі — слоў,
і твае маленькія рукі
набіраюць слова “любоў”...

*2007*

## ПРАДЧУВАНЬНЕ

Прападаю, чую, прападаю, —
ні Радзімы, ні дзяцей і ні
рук тваіх, што ціха так гартаюць
кнігу ў вечаровай цішыні…

Хопіць слабнуць, хопіць паддавацца
настальгіі, суму і віну.
Калі нельга дома заставацца,
выбірай апошняе — вайну.

На вайне як на вайне заўсёды:
за сьпіною — рваныя тылы,
справа-зьлева горныя пароды
і сяржант абкураны і злы.

Транспарт баявы пасеклі міны,
у акопах ні жывой душы,
і дыміцца пад ствалом асіны
шлем танкіста па той бок шашы…

*2007*

## КСЕНІ

Заўсёды, дачушка, будзь:
для сваіх — карамелька,
для лю́бага — як кудзелька;
ну а для ворага — як цесная
камізэлька,
каб ні ўздыхнуць яму, ні павярнуцца,
калі паспрабуе да цябе навярнуцца.

*2007*

## РЫЖАЕ ЗОЛАТА ВОСЕНІ

*Зямлячцы з інэту*

Малю цябе, рыжая, азалаці
апошнімі промнямі ў верасьні…
Я выдахся быў, я амаль заціх,
забыўшы, як пахне верасам.

Завіс я ў чужых, быццам акамянеў,
і што мне да гэтай Нарвегіі,
калі я сохну па роднай дрыгве,
і прагну пушчанскай энергіі.

Адно ратаваньне: твая любоў,
тваё жываплаўкае золата,
што льецца ў маю неслухмяную кроў,
каб нарадзіць нам волата!

*2007, Буда*

## РЫМ*

Гэта бывае — хочацца болю;
гэта бывае — хочацца ў неба,
дзе адшукаеш свабоду і волю,
у гэтым толькі твая патрэба —
          выйсьці на волю,
                    на волю,
                              на волю!

Зімою шукаеш зімы і сьнегу,
чыстага сьнегу, празрыстага лёду;
чытаеш гісторыі пра Сапегу,
нібыта схемы сакрэтнага коду
          на волю!
                    на волю!
                              на волю!

Цела тваё паддаецца спакусе
зрабіць зацяжку і выпіць, і зьесці…
О як няпроста, сьвяты Ісусе,
“з цэлым народам гутарку весьці”
          пра волю,
                    пра волю,
                              пра волю!

.........................

* Рым — тут размова, вядома, не пра горад Рым, але пра той фізіялагічны стан, які ў нашай мове абазначаецца гэтым словам. Гэта аддзеяслоўны назоўнік, паходзіць ад дзеяслова “рымець”. Рым — пагранічны стан, неспакой, прадчуваньне чагосьці. У часы планетарных катаклізмаў яго прыражываюць усе жывыя істоты, нават га́ды і рыбы.

Але ўжо палае ў сьнежаньскім небе
палярнае ззяньне з краю да краю,
і ты ў экстазе нішчыш плацэба,
і шэпчаш зацята: я выбіраю
    ісьці на волю,
        на волю,
            на волю!

А там, на волі, на горных вышынях,
у водах вечнага акіяну,
ты будзеш Радзіме сапраўдным сынам,
шчаслівы ў дзень на сьвятога Яна,
бо ты нарэшце
        на волі,
            на волі!

*2007*

***

Прыхінуцца да тваіх каленяў
перад боем, некалькі хвілін,
а пасьля ў парыве захапленьня
расстраляць апошні магазін!

І няхай ня ўбачу перамогі,
і сьцяку крывёю на асфальт —
прыйдзе час, і будуць нашы бóгі
нашым прахам гартаваць базальт!

*2008*

# ДА ТРЭЦЯЙ ГАДАВІНЫ ПАХАВАНЬНЯ АНАТОЛЯ СЫСА

Ты быў — і вось гэта галоўнае,
а як — неістотна цяпер.
Зьмярцьвеньне амаль пагалоўнае
ты прагна глытаў напавер.

Ты піў, быццам выпіць пакляўся ты
да донца вялікі наш боль,
і сам будаваў свае краты,
у раны ўціраючы соль.

Навокал жылося па-рознаму:
любілі, ішлі “на ты”,
спакойныя і нэрвозныя, —
усе. І “мільярд залаты”.

Цьвіло, бурапеніла, пырскала
жыцьцё — толькі ты дажываў.
І ўрэшце пайшоў — згасла іскарка,
ты гэтага сам пажадаў.

Цяпер я адзін бурапенюся:
блукаю і блудам грашу…
Бывай! Прыйдзе час — і сустрэнемся.
За чаркай… адвесьці… душу.

*2008, Буда*

## Ася

Напішыце мне, Ася, што-небудзь
мімалётнае і без ніякіх.
Ну, напрыклад, пра белую лебедзь,
ужываючы амфібрахій.

Тут, Асюня, такія змрокі
дзевяць месяцаў, потым — сонца…
Я прысьніў сёньня Вашы крокі —
Вы ішлі пад рыфму “бясконца”,

у сьлядах пылок завіваўся,
за плячыма — газавы шалік,
толью я пазваць Вас баяўся,
баючыся разбіць скрыжалі
сну…

Напішыце мне, Ася, раскрыйце
фантастычны ваш, сонны вобраз,
толькі блізкім не гаварыце,
што прыходзіў я, і не адзін раз.

Ася, Ася!.. О божа горны
і нябесны! І водаў мора!
Вы прайшлі, быццам дождж спорны,
і прапалі ранкам, як зоры.

Не зьнікайце ж! Хоць бы ў муаравым
сьне, а будзьце са мною, дзіва,
і ў пралётным экспрэсе тварным
я заўважу Ваш эксклюзіўны.

*2008, Буда*

## ДЭБЕТ/КРЭДЫТ

(Фінансавая паэма у 2-х частках)

I

12 рабочых дзён у красавку
(перараблялі чужую работу —
дурны і няўдзячны занятак) —
на пірсе выкручвалі
праіржавелыя шрубы-шурупы:
ракам альбо на каленях,
да заламаці ў касьцях,
у 40-гадовай сярэдзіне,
у паясьніцы-сьпіне...
Адкрыты ўвесь час ветру,
салёнаму ветру з ф’ёрду,
я ўпарта кручу-выкручваю
і ўпарта ў сабе выпешчваю
работніка-пралетара
для будучых цяжкіх бітваў
за хрумсткі еўрарубель
і высокаактанавы NOK *...
Дык вось: 12 рабочых дзён
у красавіку,
135 NOK за гадзіну адну працы.
7,5 рабочых гадзін у дзень.
135 × 7,5 = 1012,5 NOK у дзень.
1012,5 × 12 дзён = 12 150.
12150 NOK : 8 (дзе 8 NOK = l еўра)
гэта будзе 1518,75 еўра.
Але не забыцца, што
**12150 - 36% падатку = 7776 NOK,**
дзе **7776** — мой чысты заробак
за 90  гадзін работы.

..............................

* NOK — нарвежская крона.

II

Мой гуманітарны прытулак
у каралеўстве  нарвежскім
палягае на грунце скальным
і — грашовым эквіваленце
ў памеры 4600 NOK штомесяц
плюс 3 тысячы дзьве восемь дзевяць
NOK — аплата за кватараваньне,
плюс у сярэднім на 1800 за 2 месяцы
набягае
на аплату за электраэнэргію.
Але падрахуем:
4600 + 3289 + 1800 = 9689.
Такім чынам працаваць няма сэнсу,
і я
з а с т а ю с я   п а э т а м .

*11–13 мая 2008, Буда*

***

Смокча мяне памяць,
жне траву раса,
лётае ня раніць
жоўтая аса.

Каматозны станік
я зь цябе сарву…
Заўтра, як устанем,
пойдзем у царкву.

Храм наш — там, дзе пушча,
дзе ў заломах Зьвер
сілай адчайдушнай
рве граніцы сфер.

Мы з анабіёзу
у амбіцыёз
выйдзем, як з марозу,
на гарачы плёс.

Ты — мая палова,
вечны мацярык…
Не хапае словаў —
перайду на крык.

Хай дрыжаць сатрапы
    ад жу-
            ды
пад магільным крапам
    на-
        заў-
            жды!

*2008, Буда*

# ШТО ТАКОЕ ВАЙНА?

*Кастусю*

Што такое вайна? Гэта увасабленьне амбіцыяў
у сталёвыя формы ракетна-ядравых комплексаў;
гэта ўзяцьце і здача, узяцьце і здача пазіцыяў,
і прашытыя буйнакаліберным белыя крокусы.

Што такое вайна? Гэта спосаб лячэньня фісташкамі
куль гарачых, кампрэсамі бомбакіданьняў;
гэта спосаб прымусіць быць іхнымі “нашымі”;
гэта час, калі часу няма ні на бога і ні на каханьне.

Што такое “вайна”, зразумець немагчыма бяз вопыту
уваходжаньня ў зону, крывавую зону вайны.
Гэта час, калі час не губляюць на лішнія допыты,
і кароткімі чэргамі
да вас
падступаюць
кранты.

Што такое вайна? Мы, на жаль, не пасьпеем з адказамі:
гэта тое, што ўжо, і даўно, і навокал, і ў нас;
гэта токі звышэнэргетычна-шматфазныя,
прызначэньне якіх — разбураць стратэгічны баланс.

Што такое вайна? Гэта спазмы закутага розуму,
хаатычны распад біямасы на перадавой,
палявыя шпіталі, апошнія крыкі тыфознага,
і ў нягашанай вапне згарае падскурны лой…

*2008, Буда*

## З ПЯШЧОТАЙ ПРА ТУЮ, ШТО СПАТКАЕ МЯНЕ НА РАДЗІМЕ

Позні вечар, вецер, змрок… — сумна.
Падступае крок у крок сон як пума.
Праз імгненьне ты ўжо сьпіш — сьніш
краявіды
Краю.
Сьніцца ў небе зор Спарыш…
Па-
зя-
ха-
еш.
Позні вечар. Ціха сьнег
це-
ру-
сіцца
і шукае лёгкі грэх…
прымасьціцца —
на тваёй шчацэ хіба
ці на скроні,
ці, даруйце, на губах —
там, дзе ўлоньне.

*2008*

***

Сьвежы,чысты і здаровы,
саракашасьцігадовы
я
хачу любіць бязьмежна
і, вядома, незалежна
ад краінаў і шыротаў,
і тэхнічных наваротаў…
К чорту! К д’яблу апраметнай,
як старыя сандалеты,
выкідаю грэх самоты!
Набіраю абароты —
можа быць,
што раз астатні,
спрэс адкрыты,
непадкатні.
Сам сябе я выкрываю,
ачышчаю, адшкрабаю
ад старога думкаходу
і прастую на свабоду
аддаваць сябе любові
і жанчыну славасловіць,
і сьмяяцца зь ёю разам,
і пасьля застыгнуць плазам
на расістых прасцірадлах…
Я, паэт красы і сілы,
без ніякіх, да магілы,
самы крэпкі, самы лепшы,
як галоўка белай рэпкі…
І пакуль я тут з табою,
я табе свайго накрою
хлеба чорнага да сьвята

прoста так і без праплаты.
Проста так я твой — кудлаты,
непрыручаны, працяты
страсьцю з галавы да пятаў...
Дык любі, любі зацята, —
так, як я люблю а пятай, —
што пад вечар, што пад раньне,
сон прысьніўшы пра вяртаньне.

*12 кастрычніка 2008*

## ПРОСТА ТАКАЯ ЗІМА

…Не, ты ня думай, я разумею: Каляды
хутка ўжо, а за вакном — слата,
і на душы так самотна і хто б даў рады…
Ды толью вецер, вецер-сабака вые ў дратах.

Не, ты ня думай, твой жаль гэты не назаўсёды,
і у тваіх у шэра-зялёных вачах
заўтра ізноў загарацца іскрынкі свабоды,
і, значыць, у зрэнках варожых затоіцца жах.

Не, ты ня думай, бывае, што нават героі
ідуць на аральны кантакт з рэвальверным ствалом…
Толью я пэўны, што лепей пакінуць набоі
да непазьбежнага моманту перасячэньня са злом.

Не сумнявайся і не пераймайся з нагоды,
ну а тым болей, калі той нагоды няма.
Ведай, дзяўчынка, ты самай найлепшай пароды,
а усё астатняе — проста такая зіма.

*5 гадзін раніцы па Менску,*
*запалярная Нарвегія, Буда, 10 сьнежня 2008*

***

Ноч. Вуліца… Ліхтар… Каляды.
Для тых, каму няма з кім быць,
сьвіцяцца ў небе зоркапады
і поўня яркая дрыжыць.

І што з таго, што цёпла, суха
і з крана чыстая вада,
калі няма цябе, прысуха,
а без цябе — бяда…

*28.12.2008, Буда*

***

Будзь са мной, пакуль ты маладая,
будзь са мной, пакуль я не стары.
Будзь са мной — і бог пра нас падбае,
гэны бог, што свеціць нам згары.

***

Элементарныя часткі цэлага
вясною лепяцца ў формы,
новыя арганічныя,
калі на праталінах точыцца,
точыцца курасьлеп,
а за
маладым сасоньнікам
бухматыя, нібы чмелікі,
і быццам бы прытаміўшыся
пасьля разгульнага эрасу
прыціхлі рэдказямельныя
кветачкі сон-травы.

*9 лютага 2009, Буда*

## КАЛІ ЗАЎТРА ВАЙНА

Я ўпэўнены, што, калі заўтра вайна,
я буду найлепшым салдатам,
бо ведаю ўжо, як паслаць усё на
усьлед за кідком гранаты.

А ты, мне цікава, дзе будзеш ты,
калі яна заўтра пачнецца —
вайна па перыметрах нематы
і на вышынях фартэцый?

Нічога, ня ксьціся, як перад канцом:
ня маючы, ты і ня страціш…
Ты толькі ня дай сябе зьнішчыць жыўцом
на радасьць варожае шаці.

*2009*

***

Каторы дзень ні сьнегу, ні дажджу,
і толькі вецер штармавы ганяе
скальны пыл
так, што і вокны нельга прыадкрыць,
а да таго ж адзін, сярод чужых,
а паглядзіш, сьцягнуўшы з фрэндастужкі выпадкова
цікавы кліп —
і ўздымецца настрой —
хай на хвіліну, хай ажно да сьлёз;
і нават гэтыя радкі
складуцца ў верш, агорнуты настроем…

## НА ПАЛАСЕ НЕЙТРАЛЬНАЙ

На паласе нейтральнай
любіць апошні раз
так натуральна…
На паласе нейтральнай…
апошні… раз.
Трывога дадае энэргіі жыцьцю…
Жанчыне і табе няма чаго губляць…
На паласе нейтральнай пачуцьцю
няма калі чакаць…
*2009, Вільня*

# ДАЖЫНКІ – 2009

*Расея заявіла, што 8 верасьня*
*2009 г. яна плануе ўвесьці*
*на тэрыторыю Беларусі*
*2 кадравыя арміі — быццам бы*
*для вучэньняў...*

Сто тысяч “старэйшых братоў”
зьбіраюцца на вучэньні,
сто тысяч крывавых патоў
пральецца пры перасячэньні
паўночна-заходняй мяжы.

Да 8-га верасьня — факт —
пасьпеюць ячмень і жыта,
і стане поле Полем атак,
і будзе наўсьцяж пакрыта
стотысячным целам “старэйшых братоў”.

На нашым полі паляжа масква!
У гэтым і сэнс вучэньняў...
“Ніколі, — казалі дзяды, — не ўпускай
таго, хто без запрашэньня
прыходзіць у землі твае,
тым больш калі гэта сто тысяч
“старэйшых братоў” з Усходу”.

Запомні, брат, калі ўжо пайшло
пра тое, жыць нам ці легчы,
мы будзем жаць, як ня жаў ніхто
на полі людское сечы!
І факт, што палягуць сто тысяч цел
“старэйшых братоў” з Усходу!

*2009, Запалярная Нарвегія*

***

Прычашы мяне як на сьвята,
калі папараць разбушуецца;
прыбяры мяне ў шлях кудлаты,
калі сумны сьпеў з поля чуецца.

Палюбі мяне, калі зацьвітае
на Купальле смолка ружовая…
Пахавай мяне з таго краю,
дзе ляжаць нашы ўсе, дамовыя…

*2009, Вільня*

***

Сукеначка гарошыкам
ды белы паясок,
дзяўчыначка харошая,
вясёлы галасок, —

ты напяі мне песеньку —
я словы напісаў,
як я, табой узьнесены,
па-над зямлёй вітаў...

*2009, Буда*

***

Вяртаюся… зацяты, як і да
таго, калі я выехаў з Краіны,
дзе летам адключаецца вада
і жабракі ў дварах, як бедуіны.

***

З пазавугольля Еўропы
вяртаюся: хопіць! сыты!
Іхны стол таўстапопы
не для мяне накрыты.

***

Бывай, Нарвегія! Там, па той бок парогу,
ты будзеш сьніцца мне ў геаметрычных снах,
твая паўночная “Е-6” дарога
і сьлед мой на скале ў тваіх гарах.

*2009, Буда*

***

Вось і вярнуўся я.
Пытаюцца: “Надоўга?”
А з жыта мне міргаюць васількі
і астывае вечарам дарога
праз вёску з мілай назваю “Малькі”.

Вярнуўся я, бо так запланавана
было з часоў ад’езду за рубеж.
З жыццём сваіх мае жыццё старанна
нітуецца, што паспрабуй разрэж…

*2009, Друя, Беларусь*

***

…а ўвогуле мне трызьніцца ваш пах,
пялёсткі вашай сьціплай ружы-кветкі
і нашага ўзаемства хуткі крах,
як выпадковы націск на гашэтку.

*2009*

***

Хоць вы гадуеце і не маіх дзяцей,
ды ўсё ж віншую з добрым днём Матулі!
Спакойных вам і ветлівых гасьцей,
і каб малыя за парой паснулі…

*2009*

## ПЕРАПІС 2009

Запішы мяне, перапісчыца,
раскажу табе як на духу,
як паўвеку я з гора плішчыўся,
аказалася — на бяду.
Моваў ведаю — дай бог кожнаму,
адукацыя… ўсё як сьлед.
Толькі нейкі ўвесь час трывожны я,
дзе зьяўлюся — там тузін бед.
Запішы, толькі не дапісавай —
не люблю я казак чужых,
я тады раблюся бязлітасным
ад чужой нахабнай ілжы.
Запішы, замальдуй як сьлед,
дзе жыву і што-дзе нажыў,
а чырвоным адзнач, што вандруе шэпт,
нібы сам я даўно чужы.

*2009*

***

Калі ты жывеш, адчуваючы сваім
плячом плячо надзейнага сябра,
а сьцягном — сьцягно любімай жанчыны,
то ўсё астатняе — прыдасца…

***

Я ня проста восень люблю,
я люблю яе холад і вецер,
першы замаразак на ральлю
і ядкія запасы кналецьцю…
Я ня проста… нельга паддацца
ні на злом, ні на згін хрыбта…
Пяцьдзесят, вядома, ня дваццаць —
ад вінта.

## РАНІШНІЯ РАДКІ
## ПРА ЯДУ І ПАЭЗІЮ

*Я жирных с детства привык ненавидеть,*
*всегда себя за обед продавая.*
*Ул. Маякоўскі*

Мінулі часы савецкіх паэтаў,
тым больш — гераічны час Маякоўскага.
Цяпер таўстамясыя пішуць куплеты,
не карыстаючыся нават коскамі.
Сёньня ў фаворы хайку-лімéрыкі
(гэта калі сказаць няма чаго).
Пішуць спакойныя, без ніякай гістэрыкі,
такім сабе правільным дэмакратычным арго.
Апошні з нашых памёр у нуль пятым —
захлынуўся, самотны, крываваю плазмай,
таму што быў не з падкладачнай ваты
і не буфетнай запыленай вазай…
Цяпер ня тое — за правы чалавека
змагаюцца пііты вербальным паносам.
А чалавеку
патрэбны
адвеку
рэальны кавалак яды пад носам.

*2009*

***

Я раптам успомніў, як пахне маліна
у расьцяробах, што за чыгункай;
траскотны грукат старой дрызіны
і доўгі брэх крывалапай чумкі.
Маліны той пуховую спеласць
помню выяўна, як твае вусны,
і як бянтэжыла твая смеласць,
быццам “Парфумай” пісьменьнік Зюскінд…

*2010*

## МУЗЫКА

Я чую дзіўную музыку:
яна прылятае раптам
з-за сіняга-сіняга мора.

Яна называецца блюзам,
часамі бывае джазам,
рамансам,опернай арыяй,
канцэртам для скрыпкі з аркестрам,
сімфоніяй жытніх палёў
тваёй неабсяжнай Краіны
паміж Усходам і Захадам…
Але заўсёды дарэчы
зьяўляецца гэтая музыка
і перапаўняе сімпатыяй
да поўні на небе, да зораў
і акіяну бязьмежнага
жаночай ахвярнай любові.

Я слухаю вечную музыку:
вунь чорна-чырвоныя дзятлы
іграюць на сухастоінах
і над блакітнымі ф’ёрдамі
клякочуць арлы, трымаючы
высокую ноту жыцьця.

*2010*

***

Я разгладжу твае палавінкі
языкамі вечнага Фенікса
Загарацца ў вачох іскрынкі
і… памром недаждаўшы пенсіі.

І ўзьляцяць нашы душы грэшныя
па-над пеклам райскага полымя…
Толькі ты адно не прысьпешвай
меч майго сьвятога Георгія.

*2010*

***

Я не пішу вершыкаў —
ні на патрэбу дня, ні без патрэбы.
Проста ў душы маёй варыцца, а я памешваю,
каб на стале вашым сытым
было нешта і да хлеба.

*2010*

## І НАЗАВУ ЯГО СЫНАМ

І назаву яго сынам —
хай будзе дачцы маёй братам,
хай вершы мае чытае
і верыць ім большчым сабе…

Такое ня часта здараецца —
ды дзе там! — увогуле рэдка,
што нехта тваёй зачытаецца
паэзіяй не па праграме
школьнай за 8-ы клас.

А ён зачытаўся аднойчы
(зь якой прычыны, хто ведае),
радкам рыфмаваным паверыўшы,
як можа верыць юнак.

Цяпер я нарэшце ведаю:
пісаў не на ўзьвей вецер,
тым болей, пісаў, значыць, правільна,
і словам, як штык-нажом,
мяса жыцьця намацваў
і каштаваў на смак — правільна…

Ён, можа, крыху і здзівіцца,
што ў бацькі яму набіваецца
герой крымінальных показак
і віртуальных легенд.

Няхай жа! Мы ўсе тут дзіўныя —
шумім, як вецер гальлём…
Дык назаву яго сынам адзіным,
хай будзе, пакуль жывём.

*2010*

## ШЛЯХІ

Ёсць два шляхі: уверх і ўніз.
Астатняе — прамежкі.
Вядома, ўніз бяруць бяз віз,
і на аўто, і пешкі.

Хоць стрымгалоў каціся ўніз —
ніхто не затрымае.
Наадварот, галантны *пліз*
шапнуць вам па-над краем.

Таму я не жадаю ў дол —
наверх мая дарога...
Такі вось, браце мой, прыкол,
такая, бачыш, прога.

*2010*

***

*У запалярным нарвежскім*
*гарадку Буда, перакладаючы*
*прозу Гамсуна*

Сто гадоў праляцелі і дзьве вайны,
і праз горы прабілі шашу і чыгунку,
і ніхто за сабою ня чуе віны
за той вусьцішны крык на карціне Мунка.

*2010*

## ПАТАЕМНЫЯ ДУМКІ БЕЛАРУСКАГА ЭМІГРАНТА НОВАЙ ХВАЛІ

…Не маўчыце ж, біце ў звоны:
еду заўтра з Еўразоны!
Пакідаю край багаты
(праўда,крышачку пархаты).

Ой, нажыўся, наглядзеўся —
рай для тых, хто не наеўся.
Ну а тыя, хто ўжо сыты,
лезуць хвацка ў садаміты.

Хай сабе хоць скруцяць карак —
да сваіх вярнуся скварак!
Дома хоць ня ўсё ў парадку,
ды ямчэй майму азадку.

Дома бульба, дома сала,
і ня ўсё яшчэ прапала.
Дома ў нас жыве надзея,
што над Краем заірдзее
так чаканы промень Волі…
Толькі к дому! І — даволі!..

*2010*

***

Паўстаць з нічога няпроста,
але магчыма, калі
ты выбіраеш для росту
абшары сваёй зямлі…

*2010*

## МНЕ ЖЕНЩИНА НУЖНА...

*Наследаваньне Высоцкаму*

Мне женщина нужна, но что б такая,
как мать моя у моего отца:
когда он бил её, она, шальная,
детьми клялась прирезать подлеца.

Ещё хочу здорового ребёнка
произвести хотя бы в 50
с надеждой, что не вырастет в подонка
и будет папе с мамой честно рад.

Я пережил полкласса нашей школы
лишь потому, что не спешил я жить;
не пил ни разу чёрной кока-колы —
лишь белую — согреться иль остыть...

Нет, жизнь моя вполне употребима,
и есть в ней всё, как в яблочном вине.
Вот только та нужна, что мной любима
могла бы стать по собственной вине.

*13 ліпеня 2010*

***

*Посольству большой страны просто не везет: в 90-х годах прошлого столетия оно было обстреляно из автоматического оружия, потом, уже 30 мая 2001 года, его атаковали с применением двух боевых гранат, а вот 30 августа 2010 года на территорию этого совсем безобидного учреждения брошены две бутылки с зажигательной смесью…*

(По материалам СМИ)

…И час пришел: все испытав,
ты сам признал, что друг был прав,
когда с гранатами в руке
он шел к посольству налегке.

Он был не пьян и был не трезв,
не сонный был и был не резв,
в груди он ненависть сжигал,
и не шагал, и не бежал,
но быстро крался, будто лев,
опасность смертную презрев…
Был предпоследний майский день:
уже отцветшая сирень
жасмину отдала права
цветенья, пыльная трава
в дворах росла, круша асфальт…
Никто ему не крикнул "Хальт!"
и "Стой!" по-русски не сказал.
И он дошел и не упал.
Еще мгновенье — и чека
с "игрушки" боевой снята.
Бросок — секунда-две — и взрыв.

Чека вторая — на разрыв!..
Поступок дерзкий совершен,
пусть говорят, что не резон,
свои и не свои, но он,
он сделал то, что должен был,
и честь, он честь всем сохранил, —
тем, кто орал из года в год:
за независимость! вперед!
Наутро газетенок сброд
подставой это назовет.
Начнут судить-рядить: кто? как?
и сколько ж было их, атак?
Но дело сделано: герой
задержан не был и тропой,
известной другу и ему,
ушел в задымленную тьму.
Два взрыва было — три судьбы
об этом знают... В дни борьбы
нужны и ненависть, и месть,
и наглый плут тогда поймет
чем жив соседний с ним народ.

*15.06.2003*

***

Вот так получилось — родился я
на Северах,
в прекрасном контексте Природы и на
человеческом прахе,
но выпоен соком, бегущим
в литвинских корнях,
и против смертельных болезней привит
генетическим страхом.

***

Как пронзительно пахнет трава —
не живая — убитая косами,
и попахивает молва
обо мне в моем среднем возрасте.

## СЕВЕРНЫЙ ЭТЮД

Вот юный источник энергии —
девочка на бицикле,
и я, погружая в регги
мыслей тайные лики,
жду в заполярном баре
носителя женского пола —
русскую женщину Лару...
Пузырится кока-кола
в стандартной бутылке из пластика —
но девочка на бицикле —
страстей созревающих классика —
уже покидает площадку
тихого городка,
и нужно писать о чем-то,
что без названья пока.
Ах да, я начал о женщине
из большой соседней страны,
где много странностей в отношениях
(отношения, впрочем, тоже странны).
Куда-то уехала девочка,
скорее всего домой,
где однажды шепнет она:
"Мама, я стала девушкой.
Не от того ли часто бываю злой?.."
Кстати, нет ли. Но уже вечер,
день закончился как-то хмуро;
гремит в баре норвежское вече,
удивляя стандартом фактуры.
Но это пускай, мы уйдем в горы
в поисках разнообразия форм и цветов
с русской женщиной по имени Лора,
двигаясь к цели без лишних слов.

*23.04.2004*

***

*Т. С.*

У меня была своя Татьяна.
Боже мой! — невысока, хрупка;
кажется, почти что без изъяна,
с рыженьким испугом у лобка.
Долго я водил ее по кругу,
Будто пони, выездке уча…
Так любил! — и оставлял на друга
(соглашался друг, слегка ворча).
Я сражался — с диктатурой, с дрожью
в пальцах, с пустотой в карманах,
путая свою с чужою ложью,
утопая в чьих-то личных драмах.
Я бродил, где бродят лишь бродяги,
но стихи не прекращал писать,
только зря в общественном оттяге
я с Татьяной забывал гулять.
И однажды сорвалась Танюша,
и сказала: “У меня другой…”.
Не затем ли, чтобы дочку Ксюшу
произвел я с женщиной другой?

*3 ліпеня 2004*

***

Как древний зверь, я буду целовать
твои места, наполненные влагой,
и грешным ртом слова любви шептать,
вооружась отчаянной отвагой.
Когда ж уснет телесный мой оплот,
я буду горд, и, погружаясь в дрему,
почувствую, как плоть твоя поет
и уплывает в нежную истому.
Ты вспомнишь вдруг свою родную речь,
шепнешь смущенно:
                                        милый,
                                                        разрешите…
Мгновенья эти я хочу сберечь
и навсегда остаться на орбите
                                        любви к тебе,
                                                        любви к тебе.

*3 верасьня 2005*

***

Когда бы знать мне много языков,
в многоязычьи упражняться смело,
в любой стране я находил бы кров
и открывал там стоящее дело.

О, труден путь лингвистики… Во мне
природа что-то недоподключила,
но каждый раз, когда гроза вовне,
в моей душе я чувствую горнило.

И мне тогда не отплеваться, нет,
простым ругательством иль богохульством даже.
Я превращаюсь в плоть других планет,
в янтарный гравий марсианских пляжей.

Я кровью слов просачиваюсь вглубь,
я вширь теку в критические годы;
когда я говорю, я многим люб,
и льнут к ногам бойцовские породы.

Вот это да! — на странном языке
воссоздавать картину мирозданья,
слова катать тропинкою к реке
иль бормотать в минуту несознанья.

Я всё же знаю много языков,
хотя не так, как нужно бы для спора.
И в мудрость верю: избегай оков,
не заводя пустого разговора.

*2004*

# ЗЬМЕСТ

**Адамовіч, С.**

**А28** Рым : выбраныя вершы : 2002–2010 : Беларусь – Нарвегія / Славамір Адамовіч. — Мінск : БелСаЭС “Чарнобыль”, 2011. — 108 с.

ISBN 978-985-6010-29-6.

Вершы С. Адамовіча па-ранейшаму закранаюць адвечна хвалюючыя душу чалавечую пытанні кахання, волі, ладу ў грамадстве і лёсу Бацькаўшчыны. На паэтычнай ніве яны выяўляюць арыгінальнага і адметнага сваім майстэрствам аўтара.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4 Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Адамовіч** Славамір Генрыхавіч

РЫМ
*Выбраныя вершы :*
*2002–2010*
*Беларусь – Нарвегія*

Адказны за выпуск *Васіль Якавенка*

Рэдактар *Васіль Якавенка*

Набор і вёрстка *Яраслаў Мальдзіс*

Карэктар *Ала Стройнікава*

Падпісана да друку 13.01.2011. Фармат 75x90 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 4,22.
Ул.-выд. арк. 4,04. Тыраж 300 экз. Зак. .

Выдавецтва ОО «БелСаЭС "Чарнобыль"».
Ліцэнзія № 22330/0494452 ад 08.04.2009 г.
Вул. Прытыцкага, 46, 220082, г. Мінск.
yakavenka@list.ru

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў друкарні СТАА «Медысонт».
Ліцэнзія ЛП 02330/0150444 ад 19.12.08.
Вул. Цімiразева, 9, 220004, Мінск.

